# Голас Радзімы

№ 51 (2193)
20 снежня 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1965 г.
Цана 4 кап.





Гэта — твар беларускага парламента. Свой, адметны і ў нечым падобны да іншых парламентаў саюзных рэспублік. Раней у яго не было адметнасці: Вярхоўны Савет Беларускай ССР як дзве кроплі вады паходзіў на такія ж Саветы ўсіх рэспуб[illegible] і ўсіх узроўняў сваёй беспрабудна[illegible]отай думкі, сонным адзінствам і абы[illegible]авай паслухмянасцю.

Цяпер Вярхоўнаму Савету Беларускай ССР трэба думаць. А думкі ў кожнага розныя, таму што розныя палітычныя барвы нашага парламента — ад камуністаў да антыкамуністаў. Вярхоўны Савет рэс[illegible]блікі нагадвае мора, якое то спако[illegible] працавіта шліфуе кожную фармулір[illegible]ў Закона, то раптам уздымае хвалі палітычных эмоцый і выплёсквае на бераг нашага жыцця зусім не тое, на што спадзяецца народ. Хвалі апазіцыі нярэдка разбіваюцца аб сцяну неразумення парламенцкай большасці, але і ў такіх сітуацыях не настае сезон мёртвага штылю. Думка працуе ўвесь час, бакі шукаюць кампраміс.

НА ЗДЫМКАХ: у зале пасяджэнняў сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР; лідэр парламенцкай апазіцыі БНФ З. ПАЗНЯК; народныя дэпутаты БССР — Мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі ФІЛАРЭТ, айцец ЯЎГЕНІЙ і А. ТРУСАЎ; першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі А. МАЛАФЕЕЎ і Старшыня Савета Міністраў БССР В. КЕБІЧ; У. ЛАЗАРЭВІЧ — дэпутат з Рэчыцы.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.







ФОРУМЫ

## ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ І НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭННЕ

Рэспубліканскі форум на тэму «Інтэлігенцыя ў нацыянальным адраджэнні і ажыццяўленні суверэнітэту Беларусі» прайшоў нядаўна ў Мінску ў Доме літаратара. У ім прынялі ўдзел прадстаўнікі творчых саюзаў, навуковых, культурна-асветных устаноў, таварыстваў, рухаў і партый, а таксама народныя дэпутаты БССР —члены Камісіі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны, прадстаўнікі апазіцыі.

На пытанні ўдзельнікаў форуму адказаў намеснік старшыні Вярхоўнага Савета БССР Васіль Шаладонаў. У шматлікіх выступленнях разглядаліся праблемы нашага складанага часу, звязаныя з народнай адукацыяй, нацыянальнай мовай і культурай, новымі эканамічнымі адносінамі ў рэспубліцы сёння і ў будучыні, становішчам нацыянальных меншасцей, мараль і рэлігія, той крытычны стан, у якім аказалася сёння беларуская нацыя.

ГАЛАДОЎКА

## БУНТ АДЗІНОЧАК?

Некалькі дзён у будынку галоўнага корпуса Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна працягвалася галадоўка старшага выкладчыка агульнай хіміі Канстанціна Лапко. Стаміўшыся ад няпэўнасці жыцця вышэйшай школы, чалавек рашыўся на крайнюю меру, каб «разбудзіць» выкладчыкаў і студэнтаў. Яго асноўная мэта — сабраць як мага больш подпісаў пад заявай з патрабаваннямі: давесці фінансаванне навучання да ўзроўню не менш як 10 працэнтаў ад нацыянальнага даходу рэспублікі; дэпалітызаваць і дэмілітарызаваць ВНУ; з наступнага года прывесці вучэбную нагрузку на выкладчыка ў адпаведнасць з нормамі, прынятымі сусветнай практыкай; лічыць папярэдняе павышэнне заработнай платы кампенсацыяй за інфляцыю гэтага года, а з 1 студзеня наступнага года павысіць зарплату на 75 працэнтаў; даць універсітэту самастойнасць. Канстанцін Лапко мяркуе, што такі вось калектыўны зварот да Савета Міністраў і Вярхоўнага Савета рэспублікі абавязкова павінны ўлічыць у час распрацоўкі і прыняцця закона аб адукацыі.

ПРАДПРЫМАЛЬНАСЦЬ

## РЫНАЧНАЯ КАНЦЭПЦЫЯ МІНСКА

Паводле даных экспертаў, цяпер попыт насельніцтва Мінска на тавары і паслугі за кошт дзяржаўных прадпрыемстваў задавальняецца н 55-60 працэнтаў. І дзяржпрадпрыемствы не м юць значных рэзерваў для павелічэння вытворчасці. Слабая надзея і на імпарт. Не стаў сур'ёзнай падмогай кааператыўны бізнес. Толькі 1,7 працэнта тавараў народнага спажывання і 4,8 працэнта бытавых паслуг забяспечвае сёння кааператыўны сектар. На сесіі Мінскага гарсавета абмяркоўваецца «Канцэпцыя развіцця прадпрымальніцкай дзейнасці і рынкавай інфраструктуры г. Мінска». Гаварыць пра вынікі абмеркавання пакуль што рана, але зусім магчыма, што бізнес легалізуецца і аблегчыць мінчанам вырашэнне праблемы, куды падзець грошы. Па стану на 1 кастрычніка гэтага года мінчане трымалі на рахунках у ашчадных касах 2,4 мільярда рублёў.

ДАБРАЧЫННАСЬ

## ПРАПАНУЮЦЬ ДАПАМОГУ

Па запрашэнню АН БССР і Беларускага камітэта абароны міру ў рэспубліцы знаходзіліся прадстаўнікі брытанскага грамадскага дабрачыннага фонду «CHERB» («Чарнобыль»). Члены дэлегацыі пабывалі ў найбольш пацярпеўшых ад аварыі на ЧАЭС раёнах Гомельскай і Магілёўскай абласцей, наведалі навукова-даследчыя і медыцынскія ўстановы, што займаюцца чарнобыльскай праблематыкай. У Прэзідыуме АН БССР прайшоў семінар «Чарнобыльская катастрофа і яе вынікі для Беларусі», на якім былі абмеркаваны магчымасці супрацоўніцтва ў галіне вывучэння і лячэння медыка-генетычных вынікаў чарнобыльскай катастрофы, а таксама дабрачынных паставак лекаў і медабсталявання ў рэспубліку. Прадстаўнікі фонду прапанавалі скласці і ажыццявіць праграму кароткачасовых стажыровак беларускіх урачоў у спецыялізаваных інстытутах і медыцынскіх установах Вялікабрытаніі.

*«У пытанні аб эміграцыі ў ЗША, аб якой сёння столькі гавораць, мае месца нейкае непаразуменне. Мне вельмі хацелася б яго ліквідаваць.*

*Так, мы сапраўды выступалі за тое, каб ваша краіна забяспечыла сваім грамадзянам права на свабодны выезд, бо гэта ёсць элементарная міжнародная норма, якую раней Савецкі Саюз проста не выконваў. Але мы ніколі не прасілі эміграцыю як такую! І як ні парадаксальна гэта гучыць, мы, краіна эмігрантаў, ніколі не збіраліся заахвочваць эміграцыю.*

*Адкрыццё варотаў у адной краіне не азначае, што ў другой яе грамадзян абавязаны прымаць. Ёсць цэлы шэраг краін, такіх, напрыклад, як Грэцыя, Кітай, Філіпіны, якія маглі б даць, як вы гаворыце, вал эмігрантаў. Але ніякага валу няма, таму што няма магчымасці атрымаць жаданую кольказць віз!*

*Але хіба гэта азначае, што іх краіны павінны апусціць перад носам сваіх грамадзян жалезную заслону? Зусім не, і адна абставіна з другой ніяк не вынікае. І вы памыляецеся, калі лічыце, што візавыя праблемы ёсць толькі ў вашых суграмадзян. Вазьміце нас, амерыканцаў, — мы можам раз'язджаць па ўсім свеце як турысты, але паспрабуйце без спецыяльнага дазволу ўрада прыехаць, скажам, у Парыж, каб пачаць там жыць і працаваць. Гэта абсалютна немагчыма! Такі міжнародны прынцып, і з ім трэба лічыцца.*

*Вось чаму мы абсалютна ўпэўнены, што не будзе вялікага патоку эмігрантаў з СССР. Я не ведаю, колькі вашых людзей хочуць назаўсёды паехаць у ЗША, але я дакладна ведаю, што змогуць паехаць ад 50 да 60 тысяч чалавек у год. Прыкладна такая колькасць віз на пастаяннае жыхарства выдзяляецца для савецкіх грамадзян і ў гэтым, і ў 91-м годзе.*

*Павелічэння ў бліжэйшай будучыні не чакаецца».*

*(Джэк Мэтлак, Пасол ЗША ў СССР).*

КРОКІ ДЭМАКРАТЫІ

## ПАПЕРАДЖАЛЬНАЯ АКЦЫЯ

5 снежня ў Мінску, у дзень сталінскай Канстытуцыі, на плошчы імя Леніна адбыўся папераджальны пікет. Каля 500 чалавек, прадстаўнікоў усіх галіновых прафсаюзаў Мінска і вобласці, сабраліся каля Дома ўрада незадоўга да пачатку сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

Асноўная мэта гэтай акцыі — уключыць у парадак дня сесіі Вярхоўнага Савета прыняцце Закона аб прафсаюзах, праект якога быў адобраны XVII з'ездам прафсаюзаў Беларусі. Акрамя гэтага патрабавання, былі выстаўлены лозунгі: «Сацыяльнае страхаванне — прафсаюзам», «Павышэнне заработнай платы — будаўнікам», «Праблемам энергетыкаў — клопат урада», «Кампенсацыю — за нізкі ўзровень жыцця» і некаторыя іншыя.

ТЭАТРАЛЫ І СЯЛЯНЕ

## МЕТАМАРФОЗЫ МЕЛЬПАМЕНЫ

Ва ўмовах гаспадарчага разліку прадпрымальніцкай дзейнасцю пачаў займацца і Саюз тэатральных дзеячаў БССР. У горадзе Навалукомлі адкрыта вытворчае аддзяленне яго кааператыва «Тэатрал», а ў саўгасе «Сялява» на Крупшчыне — падсобны цэх па пашыву пасцельных рэчаў — дэфіцытных на сённяшні дзень чахлоў на коўдру і навалачак.

Ці выгадная гэта справа для саўгаса? Безумоўна, бо 50 працэнтаў прыбытку і 20 працэнтаў тавару застаецца ў гаспадарцы. Ужо сёння людзі з задавальненнем набываюць пасцельныя рэчы. Але ці гэтым павінен займацца тэатр?!

ЭКАЛОГІЯ

## ЗОНА БУГА

Стварыць у басейне Заходняга Буга экалагічна чыстую зону — такая мэта праекта, распрацоўку якога пачалі вучоныя рэспублікі.

Даследаванні, што будуць весціся сумесна з экалагамі Украіны і Польшчы, дадуць магчымасць зрабіць поўную інвентарызацыю і скласці камп'ютэрны банк даных крыніц забруджвання пагранічнай ракі. У рамках праграмы прадугледжваецца ўвядзенне жорсткіх мер па прадухіленню змывання ў раку сцёкаў жывёлагадоўчых ферм і прамысловых прадпрыемстваў, рэгламентаванне прымянення ўгнаенняў і ядахімікатаў у прыбярэжнай зоне. У месцы, дзе Буг перасякае дзяржаўную граніцу, прызнана мэтазгодным устанавіць аўтаматычную станцыю сачэння за чысцінёй вады.

Сярод беларускіх вучоных знайшла падтрымку ідэя арганізацыі маладзёжнага беларуска-украінска-польскага «Таварыства сяброў Заходняга Буга», якое павінна ўзяць на сябе распрацоўку праектаў аховы вод, навакольнага асяроддзя і рацыянальнага прыродакарыстання.

На думку вучоных Беларусі, Украіны і Польшчы, якія прынялі на нядаўняй рабочай сустрэчы зварот да сваіх урадаў, зона Буга павінна паслужыць за мадэль новай формы міжнароднай прыродаахоўнай дзейнасці.

КАНТРОЛЬНА-ПРАПУСКНЫЯ ПУНКТЫ



На галоўных магістралях выезду з Прыбалтыкі, Расіі і іншых рэгіёнаў СССР арганізаваны кантрольна-прапускныя пункты. Іх мэта — ахова спажывецкага рынку рэспублік, барацьба са спекулянтамі. Нядаўна такія «таможні» з'явіліся і ва ўсіх абласцях Беларусі.

НА ЗДЫМКУ: супрацоўнік ДАІ Воранаўскага раёна Гродзенскай вобласці аглядае аўтамабіль, які перасякае граніцу з Літвой.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

◆ У Наваполацку будзе пабудавана царква. Выканком гарсавета даў дазвол на правядзенне праектна-пошукавых работ. Пад храм адведзена плошча 4 гектары.

◆ У Гродне адбылася другая канферэнцыя Дэмакратычнай партыі Беларусі. Прыняты статут і праграма, якая ставіць на мэце арганізацыю дзейнасці ДПБ на аснове Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека ў свабоднай, незалежнай ад Саюза Беларусі.

◆ Адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Беларускай асацыяцыі экстрасенсаў. Каля 40 яе ўдзельнікаў з Мінска, Гомеля, Брэста, Баранавічаў, Магілёва і іншых гарадоў рэспублікі прынялі статут і праграмныя дакументы, абралі прэзідэнта і віцэ-прэзідэнта.

◆ Каля 700 навучэнцаў тэхнікумаў і прафесійна-тэхнічных вучылішчаў Магілёва выйшлі на цэнтральную плошчу горада з патрабаваннем: даць ім магчымасць абуцца. Гандаль па талонах не пазбавіў ад дэфіцыту — талоны ў навучэнцаў ёсць, але абутку на іх у магазінах няма.

◆ Выйшаў першы нумар незалежнай індэкснай газеты «Беларускі рынак». Новае выданне мае намер займацца вывучэннем рынкавых адносін, наладзіць абслугоўванне дзелавых людзей інфармацыяй. Палавіна газеты будзе аддадзена камерцыйным аб'явам, рэкламе. Першае інтэрв'ю газеце даў Старшыня Савета Міністраў БССР В. Кебіч.

ПУСКАВЫЯ АБ'ЕКТЫ ГОДА



Удвая павялічыць выпуск металакорду і бартавога латуніраванага дроту Беларускі металургічны завод у Жлобіне з асваеннем трэцяй чаргі прадпрыемства. Праектавала і будавала яе, а таксама вяла пастаўку камп'ютэрнага абсталявання аўстрыйская дзяржаўная фірма «Фест-Альпіне» пры ўдзеле фірм Італіі, Венгрыі, Швецыі і ФРГ.

Трэцяя чарга завода — гэта прадпрыемства з высокай ступенню аўтаматызацыі і механізацыі асноўных і дапаможных працэсаў. Увесці яе ў строй намечана ў першым квартале будучага года.

НА ЗДЫМКУ: новая вытворчасць Беларускага металургічнага завода.

## ЦІ ВЫРАТУЕ НАШУ ЭКАНОМІКУ БАГАТЫ ЗАХАД

# АПОРА НА ЎЛАСНЫЯ СІЛЫ

**Гутарка з дырэктарам Інстытута міжнародных эканамічных і палітычных даследаванняў АН СССР акадэмікам Алегам БАГАМОЛАВЫМ.**

*— Як вы ацэньваеце сённяшні ўзровень эканамічнага супрацоўніцтва паміж Усходам і Захадам?*

— Як нездавальняючы. Але ў сённяшніх умовах іншы наўрад ці магчымы. Якасныя і колькасныя змяненні ў адносінах паміж Усходам і Захадам звязаны перш за ўсё з палітычнымі і эканамічнымі рэформамі ў СССР і іншых краінах былога ўсходняга блока. Многія разлічваюць, што супрацоўніцтва з Захадам дапаможа вырашыць праблемы пераходу да рынку. Аднак у такім падыходзе ёсць вялікая доля ілюзій. Справа ў тым, што асцярожная пазіцыя Захаду тлумачыцца якраз нестабільнасцю сітуацыі ў Савецкім Саюзе і краінах Усходняй Еўропы. І галоўнай перадумовай для знікнення нерашучасці заходніх дзелавых колаў і расшырэння супрацоўніцтва паміж Усходам і Захадам з'яўляецца наша ўласная здольнасць ажыццявіць пераўтварэнні, у тым ліку і ў эканоміцы.

*— Якія, на ваш погляд, бар'еры трэба пераадолець у першую чаргу, каб актывізаваць гэтае супрацоўніцтва?*

— Адзін я ўжо назваў — палітычная нестабільнасць. Іншымі важнымі праблемамі, не вырашыўшы якія, мы не дасягнём жадаемага, з'яўляюцца адсутнасць рынкаў (у нас адсутнічае не толькі аптовы рынак, але і розанічны) і неканверсуемасць нацыянальных валют. Без гэтага для кожнага сумеснага прадпрыемства ці замежнай фірмы на тэрыторыі гэтых краін трэба будзе ствараць спецыяльную «аранжарэю», ва ўмовах якой яны маглі б працаваць: атрымліваць легальна сыравіну і матэрыялы, пераводзіць за мяжу прыбыткі ці рэінвеставаць іх на месцы, чакаючы, пакуль заробленыя грошы стануць цвёрдай валютай... Ну і, нарэшце, у нас шмат недахопаў у заканадаўстве. Хаця, зноў жа заўважу, пакет законаў добры толькі тады, калі яны выконваюцца, калі ёсць магчымасці для іх выканання.

*— Дык як жа нам усё-такі стварыць рынак: з дапамогай Захаду ці разлічваць на ўласныя сілы?*

— Якую дапамогу вы маеце на ўвазе? Дапамога ў стварэнні рынкаў нам можа быць аказана толькі інтэлектуальная. Без такога ўдзелу Захаду ў нашых пераўтварэннях нам абысціся цяжка. Што ж датычыць фінансавай дапамогі, то я ўжо сказаў, што інвестыцыі ў СССР і ва Усходнюю Еўропу не пацякуць, пакуль няма ўмоў для іх — перш за ўсё гарантый для акупнасці ўкладанняў і атрымання прыбыткаў, якія не могуць быць дадзены без існавання рыначнай сістэмы. Крэдыты? Але яны хутчэй разбураюць нашы краіны. Да таго ж нам няма чым плаціць, і заходнія крэдыторы чакаюць месяцамі, пакуль, напрыклад, савецкія арганізацыі выплацяць даўгі. Таму я лічу, што, ствараючы рынкі ў сваіх краінах, мы павінны спадзявацца галоўным чынам на ўласныя сілы.

*— У эпоху пераўтварэнняў найбольш прыкметныя дзве тэндэнцыі — курс на жорсткую, чыста рыначную эканоміку і курс на сацыяльна-арыентаваную яе мадэль. Якога прытрымліваецеся вы?*

— Канцэпцыя так званай сацыяльна-арыентаванай рыначнай эканомікі — гэта спалучэнне рыначнага самарэгулявання і пэўнага дзяржаўнага ўмяшання ў эканоміку ў інтарэсах сацыяльнай абароны насельніцтва, асабліва яго маламаёмных слаёў. Я прытрымліваюся менавіта гэтай канцэпцыі, і, наколькі мне вядома, яна пераважае.

Адносна таго, як я ў[illegible]маю заклікі да жорстка[illegible] ці паступовай эканамічнай мадэлі, то, на мой погляд, яны больш адносяцца не да канчатковага выніку, а да пераходнага перыяду. Усе ж яго выдаткі і цяжар, якія в[illegible]ме на сябе народ, толькі [illegible]ы акажуцца апраўданымі, [illegible]алі ў выніку пераўтварэнняў удасца стварыць умовы для хуткага эканамічнага, сацыяльнага, культурнага прагрэсу.

Вакол гэтага і вядуцца, як правіла, спрэчкі. Адны гавораць, што трэба секчы сабаку хвост адразу, а не па частках. Іншыя выступаюць за паступовасць пераўтварэнняў. Асабіста я думаю, што, калі гаварыць пра «шокавую тэрапію», то яна магчымая толькі ў нейкіх канкрэтных выпадках. Гэтым метадам можна даволі хутка прывесці ў раўнавагу спажывецкі рынак, падняўшы цэны, скараціўшы ці замарозіўшы даходы. Але з яго дапамогай зусім немагчыма вырашыць, напрыклад, праблемы ўласнасці, прыватызацыі. Гэтак жа нельга за некалькі месяцаў перабудаваць структуру эканомікі, закрыць нерэнтабельныя прадпрыемствы і перавесці інвестыцыі ў перспектыўныя галіны. Акрамя таго, ясна, што рыначны сектар не можа ахапіць усё. Ёсць галіны эканомікі, дзе законы рынку не дзейнічаюць нават на Захадзе — напрыклад, абарона.

Да таго ж канкрэтныя ўмовы ў розных краінах неаднолькавыя. Мне здаецца, што метад «шокавай тэрапіі» ў Польшчы спрацаваў пакуль параўнаўча паспяхова: узнік насычаны рынак спажывецкіх тавараў, злоты стаў канверсуемым унутры краіны. Аднак пры гэтым знізіўся жыццёвы ўзровень насельніцтва і, што асабліва насцярожвае, адбыўся моцны спад прамысловай вытворчасці. І калі ў бліжэйшы час вытворчасць не ўдасца ажывіць, то ўсе астатнія вынікі могуць быць абясцэненымі. Але падкрэслю: тую вялікую рызыку, якую ўзяў на сябе польскі ўрад, не можа ўзяць на сябе кабінет міністраў, які мае меншы давер, скажам, такі, як у Савецкім Саюзе...

*— Як бы вы ахарактарызавалі новыя адносіны паміж намі і краінамі Усходняй Еўропы?*

— Сёння ва ўсходнееўрапейцаў пераважае песімістычны настрой у адносінах да Савецкага Саюза, паколькі ён перажывае вельмі востры крызіс, выкліканы не толькі самім пераходам ад адной сістэмы да другой, але і памылкамі, дапушчанымі ў працэсе яго, а таксама супрацьіўленнем старых структур. Аднак як бы ні пераўтвараўся СССР — з унітарнай дзяржавы ў нармальную федэрацыю ці канфедэрацыю, ён застанецца важнейшым фактарам развіцця Еўропы і ўсяго свету. Ён па-ранейшаму будзе вялікім рэзервуарам для эканамічнай дзейнасці, збыту тавараў і, безумоўна, захавае каласальныя магчымасці ў здабычы сыравіны.

Таму я думаю, што мы перахварэем усімі хваробамі перабудовы. Паспрабуем усе магчымыя шляхі і, можа быць, нават зламаем сабе зубы ў барацьбе за заходнія рынкі. А потым, верагодна, прыйдзем да вываду, што ёсць магчымасць узаемавыгаднага, раўнапраўнага супрацоўніцтва паміж былымі саюзнікамі... Галоўнае пры гэтым — нічога не рабіць насільна, не навязваць уласных рашэнняў, а даць сябе праявіць натуральным законам эканомікі і палітыкі. І я вельмі спадзяюся, што за перыядам цяжкай хваробы наступіць перыяд выздараўлення.

Гутарку вёў
Валерый МАРЦЬЯНАЎ.

## ВУЧАЦЦА ФЕРМЕРЫ



**У Беларускім рэспубліканскім вучэбным цэнтры Дзяржкамсельгасхарчу БССР пачалі вучобу кіраўнікі сялянскіх гаспадарак.**
**Цяга да ведаў у гэтых людзей зайздросная: замест трыццаці чалавек на курсы давялося прыняць удвая больш. Праграма навучання аказалася даволі напружанай: займацца даводзіцца па дзесяць гадзін у дзень. Слухачы літаральна засыпаюць пытаннямі выкладчыкаў, стараючыся ўзяць ад іх як мага больш ведаў па пытаннях глебазнаўства і жывёлагадоўлі, догляду саду і аховы раслін, навучыцца па-майстэрску вадзіць трактар і ведаць кормаўборачную тэхніку, разбірацца ў казуістыцы юрыдычных норм і правілаў, глыбей пазнаёміцца з сістэмай цэнаўтварэння. Спецыялісты навучальнага цэнтра і Дзяржкамсельгасхарчу БССР аператыўна, за якіх-небудзь два месяцы, распрацавалі навучальную праграму. Жаданне навучыцца працаваць на зямлі прывяло на курсы многіх гараджан, вельмі далёкіх па роду сваёй дзейнасці ад сялянскіх клопатаў, ёсць сярод іх і ваеннаслужачыя, якія мараць звязаць далейшы лёс з сялом. Авалодвае ведамі і юная змена.**
**Ад арэнды да фермерства — гэта шлях многіх, хто сеў сёння за парту. Паспрабаваўшы сілы на асобным участку, яны вырашылі прадоўжыць самастойнае вядзенне гаспадаркі. Гэта будзе, на іх думку, выгадна і ім, і дзяржаве.**
**НА ЗДЫМКА[illegible]: курсанты гутараць [illegible] старшынёй сялянскага саюза Канстанц[illegible] ЯРМОЛЕНКАМ; выкладчык Валерый ЛАБУНОЎ.**
**Фота А. НІКАЛАЕВА.**



## ПРАЧЫТАЎШЫ Ў ВАШАЙ ГАЗЕЦЕ...

Заўсёды з цікавасцю чакаю і чытаю вашу газету. У адным з апошніх нумароў прачытала публікацыю М. Расевіча з Вільні. Поўнасцю згаджаюся з ім. Хаця маўчанне для беларуса, жывучага ў Літве, — самая значная прывілея, я адмаўляюся ад яе. Я зразумела, што болей маўчаць не маю права. Маўчанне ў даным выпадку раўназначна здрадніцтву.

Радасна, што ёсць сярод маіх землякоў неабыякавыя да лёсу беларускай гісторыі людзі. Але патрэбна, каб іх было многа і каб іх падтрымліваў урад Беларусі. Часам хочацца закрычаць — прасніцеся, землякі! Каб людзьмі звацца, да ўсяго іншага патрэбна і многа прынцыповасці.

Я ганаруся за працавіты, сумленны і сціплы беларускі народ. Але сціпласць у даным выпадку — не дапаможніца! Многа разоў яго піхаў і таптаў чужак, ён цярпеў пакуты ад далёкіх і блізкіх суседзяў. Таму да глыбіні душы крыўдна за неапраўданую сціпласць ураду Беларусі і кіраўніцтва БНФ паводле нахабных паводзін кіраўніцтва Літвы і яго сэрцайніка Саюдзіса адносна сваіх суседзяў і братоў па гістарычнаму лёсу — беларусаў.

Усе мы ведаем, што пачалося перамовы кіраўніцтва Літвы і СССР. Ведаем гісторыю далучэння Віленшчыны да Літвы. Былі сведкамі асуджэння пакта Молатава-Рыбентропа ў Маскве і Вільні. Помнім істэрычны гвалт апошніх гадоў «хунты саюдзістаў» (як піша М. Расевіч) паводле названага пакта і «акупацыі» Літвы Савецкім Саюзам. Ведаем, што Вярхоўны Савет Літвы прызнаў злачынствам не толькі гэты пакт, але і сам факт далучэння Літвы да Савецкага Саюзу.

Толькі ніводнага слова не сказана было пра ўстанаўленне гістарычнай праўды паводле Віленшчыны. Літоўскія палітыкі дзейнічаюць, як рыбакі, вылоўліваючы з гісторыі тое, што можна пераварыць за вячэраю. З гэтай мэтаю будучыя грамадзяне будучай Літоўскай нацыянальнай дзяржавы (нацыянальнай, а не дэмакратычнай, таму што Саюдзіс пахаваў дэмакратыю, не даўшы ёй нарадзіцца) рыхтуюцца да панства як вялікая нацыя на тэрыторыі аж да Чорнага мора. Афіцыйнымі органамі распаўсюджваюцца карты, кнігі на гэтую тэму. Выпушчаны ў свет першы том энцыклапедыі «Наша Літва», дзе гэтыя землі прадстаўлены як этнічныя землі літоўскай нацыі.

Любая цвярозая, але якая адрозніваецца ад патрэбнай, думка сустракае абурэнне і істэрыю літоўскіх нацыяналістаў. Эталонам палітыкі і культуры новых гегемонаў Літвы можа быць факт, калі трансляцыя рэпартажу па Літоўскаму радыё з мітынгу «рускамоўнага» насельніцтва Вільні суправаджалася злосным сабачым гаўканнем. Вобраз ворага нацыі не літоўскага паходжання адкрыта дэманструецца ўсімі дзяржаўнымі і грамадскімі ўстановамі.

У такіх абставінах грамадства і ўрад Беларусі павінны на ўвесь голас заявіць аб сваіх правах на гэтыя землі. Там і цяпер яшчэ жыве значная колькасць людзей беларускай нацыянальнасці, якія чакаюць вашай падтрымкі.

З павагаю **К. КАЛІШЭЎСКАЯ.**

Вільня.

Р. S. Па зразумелых падставах падпісваюся псеўданімам, прашу не спасылацца на маё сапраўднае прозвішча.

## З «НЬЮ-ЙОРКСКАГА ДЗЁННІКА»

# СУСТРЭЧЫ З АМЕРЫКАНСКІМІ БЕЛАРУСАМІ

**Сярод дэлегатаў 45-й сесіі Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый быў пісьменнік і вучоны Адам МАЛЬДЗІС. Знаходзячыся ў Нью-Йорку, ён прадоўжыў навуковыя кантакты з беларускай эміграцыяй, расказаў пра іх у сваіх дарожных нататках. Змяшчаем урывак з яго «Нью-Йоркскага дзённіка», які цалкам будзе друкавацца ў «Народнай газеце».**

### 6 КАСТРЫЧНІКА

Пачалося сапраўднае «індыянскае» (а па-нашаму — бабіна) лета. Па тэлебачанні сказалі, што сёння будзе 73 градусы цяпла па Фарэнгейту (26 па Цэльсію). Таму суботні горад напалову апусцеў. Хто мог, скіраваўся на ўлонне прыроды, хто застаўся, пайшоў у Цэнтральны парк, што цягнецца шырокай паласой паміж Пятай і Восьмай авеню.

Каб хоць крыху пакарыстацца уік-эндам, я дамовіўся з прэзідэнтам БАЗА спадаром Антонам Шукялайцем, што таксама пойдзем у Цэнтральны парк, каб, седзячы на свежым паветры, запісаць на дыктафон яго ўспаміны пра Мінскі музей у час вайны. Знайшлі мы зацененую густой лістотай, крыху пажаўцелай ужо, лавачку каля помніка Андэрсену. Побач на скрыпцы найграваў папулярныя мелодыі нейкі былы віртуоз (а цяпер ён з удзячнасцю прымаў сціплыя ахвяраванні). І так яно і спалучалася на стужцы: няспешны расказ спадара Антона, гукі скрыпкі, рэдкія воплескі, дзіцячы смех і плач.

Пачаў мой субяседнік з даваеннага часу, калі вучыўся ў Віленскім універсітэце. Тады, у канцы 30-х гадоў, адзінай легальнай беларускай арганізацыяй у Польшчы заставаўся Беларускі студэнцкі саюз, куды ўваходзіла каля ста асоб. Меў ён рэпутацыю левай арганізацыі, таму не ўсе студэнты-беларусы рашаліся ў яго ўступаць. Тым болей, што членаў саюза пазбаўлялі права на стыпендыю, а па сканчэнні універсітэта — магчымасці працаваць на дзяржаўнай пасадзе. З ініцыятывы саюза ў 30-х гадах узнікла пры універсітэце Таварыства прыяцеляў беларусаведы, да якога маглі належаць і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў. Лекцыі па літаратуры ў ім вельмі грунтоўна чытаў Антон Луцкевіч, па гісторыі — Мікола Шклялёнак, па мове — Янка Станкевіч, па мастацтву — Лявон Вітан-Дубейкаўскі. Старшынёй таварыства быў мой субяседнік.

— Пры маёй ініцыятыве, — успамінаў ён, — праводзіліся многія імпрэзы: выступленні хору пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы, літаратурныя вечары. Выйшаўшы з турмы, ва універсітэце часта бываў Максім Танк. Ён увогуле чуўся як студэнт, прыходзіў на ўсе імпрэзы. Я пазнаёміў яго са сваім дзядзькам, этнографам Мар'янам Пецюкевічам, які загадваў савецкім аддзелам у бібліятэцы імя Урублеўскіх. Танк тады працаваў над паэмай пра Кастуся Каліноўскага, і дзядзька памог яму пазнаёміцца з менскімі працамі пра паўстанне 1863 года... Успамінаецца таксама, што ў 1939 годзе мы хацелі наладзіць ва універсітэце вечар Міхася Забэйды-Суміцкага. Але рэктар універсітэта, ксёндз Вуйціцкі, забараніў яго. Дакладней, не забараніў, а сказаў: «Калі дазволіць паліцыя, дазволю і я», ведаючы, што паліцыя нізавошта не згодзіцца... Той жа рэктар загадаў, каб студэнты-гэбрэі сядзелі ва універсітэце на асобных, левых лаўках. Пасля адпаведнага рэферата сябры Міцкевіча — потым ён быў міністрам асветы ў БССР — мы рашылі падтрымаць гэбрэяў, сядалі побач з імі. Тады беларускіх студэнтаў прымусова, адрываючы рукавы, выцягвалі з лавак, усчыналіся бойкі.

— А ці не ведаеце вы чаго пра лёс заходнебеларускага грамадскага дзеяча і пісьменніка Янкі Пазьняка? Нягледзячы на афіцыйныя запытанні, мы не змаглі высветліць, што з ім сталася.

— Відаць, быў арыштаваны пасля верасня 1939 года. Чалавеча, Янку Пазьняка я добра ведаў. Ён быў гаспадаром памяшкання на вуліцы Завальнай, пад нумарам адзін, дзе месціліся беларуская друкарня, рэдакцыя «Крыніцы», Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры. Звычайна тут, пераўтвараючы тапчаны ў ложкі, начавалі мы, студэнты. Вечарам заходзіў да нас Янка Пазьняк. Вёў дыскусіі. З гумарам, крытычна пераказваў сцэнкі з жыцця Грыба, Шылы, Мамонькі, Бадуновай. Але быў талерантны, паважаў перакананні іншых.

Затым пытаю пра крыж Ефрасінні Полацкай. Куды ён мог трапіць у 1941 годзе — на Усход ці на Захад? Ці не мог аказацца, як ходзяць чуткі, у Аўстраліі? Ці не «разабралі» яго па частках з увагі на залатыя пласціны і каштоўныя каменні? Антон Шукялайць лічыць, што, хутчэй, трапіў ён на Усход, бо часу на эвакуацыю з Магілёва было дастаткова — гэта не Мінск... Аднак і аўстралійскую версію трэба праверыць, скажам, праз нашага суродзіча Каранеўскага, які там жыве і цікавіцца мастацтвам, што ж датычыцца «разбору», то наўрад ці ён быў рэальны. Бо кошт золата і каменняў на крыжы невялікі. Галоўная яго вартасць у тым, што гэта рэліквія, мастацкае тварэнне.

Урэшце пераходзім ці не да галоўнага — да лёсу Мінскага гістарычна-мастацкага музея ў час вайны, нямецкай акупацыі. У 1941 годзе яго не паспелі эвакуіраваць, усе супрацоўнікі разбегліся. Потым вярнуўся з вёскі Габрыель Віер, які крыху ведаў фонды і пачаў іх парадкаваць. Але ён не ведаў нямецкай мовы; акупанты прыходзілі ў музей і бралі, што ім падабалася. Тады паклікалі ў гарадскую ўправу, да Вітаўта Тумаша, Антона Шукялайця і, паколькі ён з універсітэта ведаў нямецкую мову, прапанавалі яму ўзначаліць музей.

**(Заканчэнне будзе).**

## З ЧУЖЫХ СТАРОНАК

# КАМУ ПАТРЭБНА ВУНІЯ?

**Заканчэнне. Пачатак у № 50.**

Перад падзелам Рэчы Паспалітай, польская мова ўжывалася ў царкоўных сьпевах, на працэсіях, пры паховінах, хрысьцінах і пры ўсіх іншых абрадах сьпявалі польскія кантычкі. Усё школьніцтва, духоўнае і сьвецкае, праводзілася ў польскай мове. Толькі апошнім часам вуніяты пачалі зьвяртацца ў беларускай мове, але было ўжо позна, каб знайсьці давер у народзе.

Як у сапраўднасьці ўводзілася вунія на Беларусі можа паслужыць урадавае пісьмо канцлера Вялікага Княства Літоўскага да вуніяцкага архіепіскапа Язафата Кунцэвіча з дня 12-га красавіка 1622 году. Ніжэй падаём тэкст гэтага пісьма ўзяты з «Нарысу Рэлігійнай Гісторыі Славянскіх Народаў», графа Валерыяна Красінскага, выданай у Эдынбургу у 1851 годзе, страніца 205: «Цераз надужываньне вашэцявага аўтарытэту і цераз вашэцявы паступкі, якія барджэй пачатак свой бяруць з нікчэмнасці і асабістай ненавісьці, чымся з міласэрднасьці да вашэцявых бліжніх, — што знаходзіцца ў яскравай супярэчнасьці з правамі нашае краіны, — вы раздмухалі гэтыя небясьпечныя іскры, якія могуць выклікаць усёзьнішчальны агонь. Паслухмянасьць перад правамі нашае краіны ёсьць болей патрэбная, чымся вунія з Рымам. Нямудрае распаўсюджаньне вуніі шкодзіць вялічнасьці сувэрэна. Трапным ёсьць імкненьне, каб быў адзін пастыр і адно стада; аднак трэба імкнуцца з развагаю і не тасаваць «cogi intrare», якое супрацьставіцца нашым правам. Агульнае аб'яднаньне можа зрэалізавацца толькі праз любоў, але не на дарозе гвалту; таму няма чаго дзівіцца, што ваш аўтарытэт напатыкае на супраціў. Вашаць піша мне, што вашэцявае жыцьцё ёсьць у небясьпецы; а я думаю, што гэта вашаць сам вінаваты. Вашаць кажа, што змушаны ў цярпеньнях ісьці сьледам першых епіскапаў. Крочаньне сьледам вялікіх пастыраў запраўды ёсьць годным пашаны, і вашаць павінен ісьці іхняю пабожнасьцю, навукаю і далікатнасьцю. Чытайце іхнія жыцьцяпісы, і вашаць у іх ня знойдзе, каб яны каго-небудзь пр[illegible]дзілі ў суд Антіёхіі або Канстантынопалю; тады як усе нашыя судовыя ўстановы заваленымі знайходзяцца вашэцявымі прасьледваньнямі. Вашаць кажа, што ёсьць змушаным бараніцца перад агітатарамі. Хрыстос, будучы прасьледаваным, не бараніўся ад іх, але маліўся за тых, што прасьледавалі яго: гэтак павінен і вашаць паступаць, замест распаўсюджваньня абразьлівых пасланьняў або выгражацца пагрозамі; гэтакіх прыкладаў апосталы не пакінулі нам. Вашэцявы сьвяты абавязак заключаецца ў тым, што вы дазваляеце грабіць схізматыкаў, і адсякаць іхнія галовы: евангельле вучыць зусім іншае. Гэтая вунія стварыла вялікую бяду. Вы ўводзіце гвалт над сумленьнем, і вы замыкаеце цэрквы, затым хрысьціяне гінуць, як пагане, без багаслужбы і тайніцаў веры. Вашаць надужывае аўтарытэт манарха, нават ня просячы дазволу на ўжываньне яго. Калі-ж вашэцявы дзеяньні выклікаюць разрухі, вашаць заразжа піша нам, што патрэбным ёсьць пакараньне праціўнікаў вуніі. Хай Бог бароніць, каб наша краіна была абясчэшчана гэтакімі гнуснымі паступкамі! Каго вашаць навярнуў сваею жорсткасьцю? Вашаць адапхнуў аднойчы лёяльных казакаў; вы зіначылі авечак у казлоў; вашаць сьцягнуў небясьпеку над краінаю і магчыма зьнішчэньне для католікаў. Вунія не прынесла радасьці, адно толькі нязгоду, сваркі і бязладзьдзе. Было-б шмат ляпей, калі-б яна ніколі не мела месца сярод нас. Цяперака, я паведамлю вашэця, што загадам караля, цэрквы маюць быць адчыненымі і перададзенымі праваслаўным, каб яны маглі выконваць свае багаслужбы. Мы не забараняем жыдом, ані магамэтанам мець свае дамы для багаслужбаў, а вы запіраеце хрысьціянскія сьвятыні. Я атрымліваю пагрозы з усіх старон нашага краю, што ўсе сувязі з намі будуць парванымі. Вунія ўжо пазбавіла нас Старадуба, Сівершчыны і іншых месцаў і крэпасьцяў. Высьцерагайцеся, каб гэтая вунія не спрычыніла вашэцявага і нашага зьнішчэньня».

Леў Сапега быў каталіком, але разважным, а Язафат Кунцэвіч быў каталіцкім фанатыкам і за гэта мабыць кананізавалі яго на сьвятога патрона вуніяцкай царквы.

Такі вось вобраз Беларусі выглядаў у той час. І ў такім выпадку, ці можна сёньня вяртацца да такога стану рэчаў і ўважаць вунію за аснову ў садзейнічаньні адзінства, як гэта хоча ўвясьці БНФ.

А што да ліквідацыі вуніі, то не была яна такая гвалтоўная. Яна і перад гэтым упадала пад польскім і рыма-каталіцкім напорам. Да таго, у 1946 годзе вунія на Беларусі не існавала, дзеля гэтага ня трэба казаць аб нейкай ліквідацыі. Гэта было на Украіне, а не на Беларусі.

Гледзячы ў пэрспэктыву часу, зусім лягічна можна меркаваць, што падзелы Рэчы Паспалітай уратавалі Беларусь ад канчатковай дэнацыяналізацыі, бо палянізацыя ўжо перад тым залазіла пад саламяныя стрэхі сялян. Ліквідацыя вуніі і паварот да праваслаўя з яе царкоўна-славянскай мовай, захавалі такім чынам Беларусь да часу Адраджэнскага, менш пашкоджанай. Уведзеная, пасьля ліквідацыі вуніі, русыфікацыя, ня мела спярша магчымасьцяў вынарадавіць беларусаў, бо ўсюды яшчэ гаспадарылі палякі са сваімі «соймікамі» і школьніцтвам.

Якая-ж ідэя цяпер кіруе некаторымі «патрыётамі», каб аднаўляць вунію? Ці гэта ідэя ёсьць матываваная рэлігійнымі калькуляцыямі, ці нацыянальнымі патрэбамі? Каму яна ў істоце патрэбна і адкуль яна цяпер зьявілася на Беларусі? Вядома, што папа Ян Павел II назначыў біскупа Тадэуша Кандрусевіча Апостальскім Адміністратарам у Менску. Як мы чулі, паходжаньня ён паляк. І як ведама з прэсы, ужо ў Менску ў касьцеле ксёндз гаварыў спярша па-польску.

Многа пытаньняў можна ставіць і даваць на іх многа адказаў. І якія-б гэта не былі пытаньні і адказы, факт ёсьць той, што замер накінуць Беларусі вунію не памёр. Паміма гістарычнай няўдачы, правесьці гэта пры помачы палякаў, гэтая ідэя рэалізуецца цяпер пры помачы выкарыстаньня, папросту, беларускага патрыятызму. Створана форма рэлігійнага нацыяналізму, у якім людзям цяжка разабрацца, што рэлігійнае, а што нацыянальнае, а мэта самой ідэі ёсьць неспасьцярожана людзскою наіўнасьцю. Ідэя гэта разьбіла эміграцыю, а цяпер яе ўжо паслалі на Бацькаўшчыну.

Тут трэба адзначыць, што цяпер мы не ведаем дакладна, якая ёсьць прапорцыя каталікоў да праваслаўных на Беларусі. Але рыма-каталіцкі сьвятар Ян Матусевіч з Ашмяншчыны сказаў на Устаноўчым зьезьдзе БНФ у Вільні, што: «...сёньня пры зьмененых палітычных абставінах Каталіцкая царква ў Беларусі зьяўляецца маленькай нацыянальнай чужой рэлігійнай установай, якая ня мае ніякага значэньня ў беларускім нацыянальным жыцьці. (...) Каталіцкая царква ў Беларусі стаіць на раздарожжы: або зачыніцца ў гэтай невялічкай нацыянальнай меншасці (палякаў—М. Г.) без шанцу на будучыню, або прыпомніць загад Збавіцеля «Ідзеце і навучайце народы», павярнуцца тварам да насельніцтва краіны, спрагнёнага духовае стравы». («Беларус» № 361, ліпень 1989, стр. 2).

Гэта самая газэта ў артыкуле «Міжнародны друк пра біскупа Кандрусевіча» налічвае на Беларусі 2.25 мільёнаў каталікоў.

Пры меркаваньні аб колькасьці рыма-каталікоў, ці палякаў на Беларусі, трэба браць пад увагу колькасьць ахвяр сталінскага тэрору, зсылкі на Сібір, пасьляваеннае перасяленьне палякаў з Беларусі ў Польшчу і ўсе іншыя страты гэтага пэрыяду. Таму, з пэўнасцю можна сьцвердзіць, што на Беларусі фактычна няма ўжо тых 2-х мільёнаў рыма-каталікоў, як гэта было ў канцы XIX стагоддзя. Хутчэй трэба згадзіцца з а. Я. Матусевічам, навочным сведкам рэчаіснасці, што рыма-каталікі на Беларусі гэта «маленькая чужая нацыянальная установа, якая ня мае ніякага значэньня». Дзеля гэтага, статыстыка ў «Беларусе» ня ёсьць верагодная, а тэндэнцыйная.

Да рэчы можна сказаць, што ў гэтай газэце заўважаецца нейкі фарысейскі і некарысны для Беларусі, у адносінах рэлігійных, падыход. Гэтакі-ж дух праяўляецца ў далейшым, што кажа а. Ян Матусевіч, Юры Хадыка і БНФ, які, па сутнасьці, павінен дзейнічаць у інтарэсе ўсяго народу, а не на карысьць рэлігійнай меншасьці. У гэтых іхніх выказваньнях выяўляецца нейкае прысвойваньне сабе манаполіі да загадаў Хрыста і збаўленьня душаў.

Праўда, беларусы рыма-каталікі у канцы XIX-га і пачатку XX-га стагодзьдзя былі першымі, што ачнуліся ад народнага застою. Дзейнасьць іх заслугоўвае гістарычнага ўзнаньня, але манаполія да нацыянальнага дзеяньня не належыць да іх адных, яна сталася народнай, бяз розьніцы веравызнаньня. І таму, у першую чаргу, для тых сьведамых беларусоў — каталікоў данага часу, павінна быць нацыянальна - усьведамляючая праца сярод апалячаных аднаверцаў, а не прапагаваньне аднаўленьня вуніі.

На Беларусі ёсьць патрэбная свабода сумленьня і беларусізацыя рэлігійнага жыцьця, а не вунія, якая была заложана ў свой час польскімі езуітамі з падтрымкай іхняга польскага караля, каб спярша заганяць беларусаў у каталіцызм, а пасьля іх апалячваць, як гэта паказала нам сама гісторыя.

**М. ГАХОВІЧ.**

**«Голас часу»,**
Лондан.

## ДА 500-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Ф. СКАРЫНЫ




**У Вільнюсе ўрачыста адзначана 500-я гадавіна з дня нараджэння беларускага першадрукара, асветніка і гуманіста XVI стагоддзя Францыска Скарыны. Ля дома, дзе Ф. Скарына ў 1522 годзе надрукаваў «Малую падарожную кніжку», а праз тры гады «Апостал», сабраліся прадстаўнікі грамадскасці горада, члены Беларускай абшчыны, госці з Беларусі. Тут была адкрыта мемарыяльная дошка. У Доме работнікаў мастацтваў адбыўся таксама ўрачысты сход, была адкрыта выстаўка работ беларускіх мастакоў, а ў Вільнюскім архісаборы-базіліцы адбылося богаслужэнне.**

**НА ЗДЫМКУ: пасля богаслужэння ў Вільнюскім архікафедральным саборы.**

**Фота В. ГУЛЕВІЧА.**

## ВЯЛІКАЯ СПАДЧЫНА РЭРЫХАЎ

Беларускі фонд Рэрыхаў — так называецца новая грамадская арганізацыя, стварэнне якой замацавана рашэннем урада рэспублікі. Рух, які ўзнік у Мінску чатыры гады назад як клуб сяброў Індыі імя Рэрыхаў, дзякуючы падтрымцы Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, творчых саюзаў і грамадскіх арганізацый ужо заваяваў аўтарытэт. Арганізаваныя ім лекцыі, «круглыя сталы», дыскусіі дапамаглі глыбей пазнаёміцца са шматграннай і ўнікальнай спадчынай сям'і вялікіх асветнікаў, якія ўнеслі велізарны ўклад у развіццё сусветнай культуры.

Па рашэнню Савета Міністраў БССР фонду Рэрыхаў прадастаўляюцца службовыя памяшканні, будуць адкрыты спецыяльныя банкаўскія рахункі для ўнясення добраахвотных ахвяраванняў у рублях і ў валюце. Намечаны выпуск кніг, альбомаў, паштовак, якія будуць прапагандаваць творчую спадчыну Рэрыхаў.

## ДВАЦЦАЦЬ ДВА З... ШАСЦІСОТ

Каля 600 вядомых літаратараў краіны прадстаўлены ў энцыклапедычным даведніку «Пісьменнікі народаў Савецкага Саюза», выпушчаным сафійскім выдавецтвам імя д-ра Петра Берона. Гэтае унікальнае выданне дае магчымасць на прыкладзе канкрэтных імёнаў прасачыць, як развівалася ў асноўным савецкая шматнацыянальная літаратура, хоць робіцца экскурс і ў дарэвалюцыйны час.

Прыводзяцца звесткі з жыцця і творчасці прадстаўнікоў сорак адной літаратуры, змешчана падрабязная бібліяграфія выкананых у Балгарыі перакладаў кожнага з аўтараў.

Дваццаць два пісьменнікі з шасцісот — нашы. Беларуская літаратура прадстаўлена А. Адамовічам, М. Багдановічам, Ф. Багушэвічам, Я. Брылём, П. Броўкам, Р. Барадуліным, В. Быкавым, Н. Гілевічам, В. Дуніным-Марцінкевічам, У. Караткевічам, Я. Коласам, К. Крапівой, Я. Купалам, А. Макаёнкам, І. Мележам, М. Сматрыцкім, М. Танкам, І. Навуменкам, Ф. Скарынам, І. Чыгрынавым, К. Чорным, І. Шамякіным.

*ЗНАЁМІМ З ТВОРЧАСЦЮ МАЛАДЫХ*

# ...І ДРЭВЫ БЛУКАЮЦЬ ПА ГОРАДЗЕ

Упершыню Віктара Шніпа я ўбачыў недзе ў канцы сямідзесятых. Невысокага росту, зусім хлапчук яшчэ, ён спачатку, здаецца, «абжыў» дзверы аддзела літаратуры часопіса «Беларусь», дзе адразу знайшоў падтрымку з боку Аляксея Русецкага, які тады «рыхтаваў» паэзію. Праз колькі часу асмеліўся зайсці і ў штотыднёвік «Літаратура і мастацтва», на гэты раз прапанаваў вершы загадчыку аддзела паэзіі і прозы Юрасю Свірку. Прызнацца шчыра, лімаўскі дэбют маладога аўтара крыху запазніўся, а вось «Беларусь» адразу прыняла новага аўтара.

Як бы там ні было, а ў літаратуру ўвайшло яшчэ адно імя. Крыху пазней і я пазнаёміўся з В. Шніпам бліжэй — пасля таго, як у газеце «Звязда» надрукаваў артыкул, прысвечаны маладой беларускай паэзіі. Знайшлося ў ім месца і В. Шніпу, тады аўтару першага зборніка «Гронка святла», які выйшаў у 1983 годзе. Святла ў кніжцы сапраўды было зашмат, нават, памятаецца, давялось паўшчуваць аўтара, што так часта ўжывае слова «сонца».

А можа і не трэба было гэта рабіць? Як на сённяшні дзень, дык В. Шніпа можна зразумець. Ён жа быў малады тады не толькі паэт, але і цесля (нарадзіўся В. Шніп у 1960 годзе ў вёсцы Пугачы Валожынскага раёна, вучыўся ў Мінскім архітэктурна-будаўнічым тэхнікуме, а потым пачаў працаваць на будоўлі), сапраўды штодня бачыў шмат сонца. У небе над галавой, у стужках драўніны, што курчавілася пад вострым лязом сякеры ці рубанка. Ды і сонечнасць у думках, пачуццях...

Сонечнасць, шчырасць, даверлівасць, адкрытасць дамінавалі ў першай Віктаравай кніжцы. Гэта часам ішло як бы насуперак мастацкасці, вяло да адсутнасці глыбіні ў пранікненні ў з'явы. Але бачылася: малады аўтар мае талент.

Недзе ў [illegible] час, калі В. Шніп рыхт[illegible], сваю чарговую кніжку (зборнік «Пошук радасці» пабачыў свет у 1987 годзе, паэт ужо вучыўся ў Маскве, у Літаратурным інстытуце імя Максіма Горкага), у яго напісаўся верш, які і цяпер успрымаецца як свайго роду творчае крэда аўтара:

**А талент ад душы,**
**Не ад святога духу.**
**А без душы паэт,**
**Нібы рака без руху.**

Паэзія В. Шніпа і нясе ў сабе гэтыя задаткі душэўнасці. Традыцыйная ў сваёй сутнасці (прынамсі, да нядаўняга часу, таму што цяпер паэт, відаць, не без уплыву творчых сяброў пачаў і эксперыментаваць, арыентуючыся адначасова і на ўзоры замежнай лірыкі), яна пра тое зямное, вечнае, што прыходзіць да чалавека змалку і спадарожнічае яму ўсё жыццё:

**Адвечныя думы зямныя**
**Зямнымі ў нас будуць штовек,**
**Пакуль за дабро чалавеку**
**Прыносіць дабро чалавек.**

Гэтая повязь з вытокамі адчувальная ў вершах, у якіх паўстаюць вобразы землякоў паэта. «Кузьма», «Дзядзька Мікола», «Хведар»... Што ні твор, то імкненне апаэтызаваць таго, хто прапісаны нейкім учынкам, справай і ў тваёй біяграфіі. Вяртанне да каго, нават мімаходзь, у думках — вечнае свята першароднасці, нерушавасці. Часам стваралася ўражанне, што В. Шніп не вельмі дбае, каб з ранейшых уражанняў выбраць штосьці найбольш важнае, істотнае, а проста перадае свайго роду паток свядомасці. Як, скажам, у вершы «Дома»:

**І светла, і змрочна**
**на сонным гарышчы.**
**У чорным цабэрку**
**бялее мука,**
**І вецер вільготны**
**праз шчыліны свішча —**
**Калыша гняздо павука.**

Аднак дачытаеш верш да канца і адразу зразумееш, наколькі памылковае гэтае першапачатковае ўражанне. Якраз «звычайнасць звычайнага» і гаворыць на карысць таго, што ў аўтара ёсць талент. І немалы.

Пагадзіцеся, не так і складана ўзвысіць нешта нязвыклае, нечаканае, а вось, каб убачыць паэзію ў паўсядзённасці, тых шэрых буднях, якія да нядаўняга часу былі для нас ледзь не самымі лепшымі на зямлі, тут неабходна майстэрства. Ім В. Шніп і валодае, пішучы пра сваю вёску, свае ўражанні. Але, высвятляецца, гэта і вёска кожнага з нас, хто ў пэўную хвіліну назаўсёды развітаўся з ёю.

Пройдзе яшчэ крыху часу, і ў паэта з'явіцца адчуванне болю, пакаяння перад сваёй вёскай, школай, у якой няма каму вучыцца, бо раз'ехалася моладзь па краіне, прывабілі яе вялікія і далёкія бальшакі. Але гэта будзе ўжо ў чарговай, трэцяй кніжцы В. Шніпа «Шляхам ветру», якая толькі што прыйшла да чытача:

**...Іду па вуліцы няпыльнай,**
**Лісты нязвыкла шамацяць.**
**І школа мне глядзіць у спіну,**
**І цёткі ў вочы мне глядзяць.**

Пашырыўся творчы дыяпазон паэта, ужо яму стала цесна ў коле ранейшых тэм. Калі ў зборніку «Пошук радасці» вяртанне ў мінулае роднага народа толькі акрэслівалася, дык у кнізе «Шляхам ветру» чуваць само дыханне гісторыі, па ростанях якой ступае лірычны герой аўтара, прызнаючыся: «Гісторыю пісалі курганамі, пазнаю Беларусь па курганах». Ён гісторыю гэту і асэнсоўвае. Калі раней В. Шніп прыглядаўся больш пільна да сваіх землякоў, дык цяпер вабяць яго постаці тых, хто ў розныя часіны дбаў аб будучыні свайго краю — «Паўлюк Багрым», «Воля Кастуся Каліноўскага», «Цішка Гартны», «Плач князёўны». Ды і як жа інакш! Усе мы, хто хоча людзьмі звацца, не павінны забываць: нашы карэнні ў ым:

**А воі ў бітву йшлі...**
**і за мяне**
**І не вярталіся назад.**

Нараджаецца і пачуццё віны. Не, не толькі перад пакінутай вёскай, а віны перад народам: «Чаму маўчаў, калі глумілі мову, а сёння ў гурце смела я крычу? Няўжо таму я зараз не маўчу, што ў гурце ў гул зліваюцца ўсе словы?» Пытанні, пытанні... Адказ даваць на іх няпроста, калі адмаўляцца ад слоў агульных, зацяганых, а мовіць тое, што на душы.

В. Шніп гэтаму адмаўленню навучыўся. І не толькі адмаўленню. Ён ведае: мала пра нешта заявіць, куды важней усвядоміць неабходнасць падобнага ачышчэння як адзіна правільнага — «Адмаўляю сябе былога, пасылаю сябе на крыж. Людзі выгналі з храма бога, я з душы выганяю мыш». Ачышчэнне дзеля ўзвышэння. Самога духу, чалавечай годнасці. І годнасці нацыянальнай, якой і па сённяшні дзень часам так цесна і тлумна пад каўпаком «звышінтэрнацыянальнасці»:

**Мне галоўнае — было б**
**Вольна жыць у Беларусі,**
**Слова роднае жыло б.**
**Замкі, храмы і курганні**
**Не аддаць палын-траве.**

Адразу ж позірк у дзень заўтрашні, у будучыню. Каб прадугадаць, што і як будзе. Зрабіць жа гэта не так і проста. У тым сэнсе, што нават самыя лепшыя ўяўленні часам не заўсёды супадаюць з явай, якая прыйдзе праз шмат гадоў. Але імкнуцца дзень наступны прадугадаць неабходна. Гэта і робіць В. Шніп. Мне асабіста падабаецца наступны верш паэта, напісаны па-сучаснаму, але вечны сваёй тэмай:

**і скажа той хто народзіцца**
**што ён скажа — не ведаю**
**але ён павінен сказаць лепей**
**чым гаварылі мы**
**ён будзе разумнейшы чым мы**
**ён будзе любіць родную мову**
**а мы...**
**але пра гэта скажа той**
**хто народзіцца**

Сцвярджэнне таго, што ёсць, і запрашэнне да роздуму... Канстатацыя факта і яго пільны псіхааналіз... Такая яна, сённяшняя паэзія В. Шніпа — зямная, традыцыйная і разам з тым надзіва ўзнёслая, я б сказаў, узлётная. Ён не спяшаецца паспець за ўсімі падзеямі, разумеючы, што каму-каму, а паэту «ўсёеднасць» шкодзіць. Але ён не праміне выпадку, каб сказаць слова там, дзе проста маўчаць не можа, ды і не мае на гэта права. Так, напрыклад, нарадзіўся верш «Брат» — здавалася б, такое сціплае, але такое патрэбнае слова пра неаб'яўленую афганскую вайну.

Віктар Шніп пасля заканчэння інстытута працуе ў часопісе «Беларусь», на старонках якога колісь упэўнена дэбютаваў. Праўда, не ў аддзеле літаратуры, а культуры.

Што ж, такая ўжо доля журналіста — ісці туды, дзе патрэбны. Між іншым, пра пазіцыю В. Шніпа-журналіста яскрава сведчыць такі факт. Калі ў рэспубліцы вялося ледзь не паляванне на так званых нефармалаў, ён выступіў з грунтоўным і прынцыповым артыкулам, у якім сказаў усю праўду, адначасова выказаў сваю пазіцыю. І пісьменніка, і грамадзяніна.

І ўсё ж Віктар Шніп — сапраўдны паэт. Афіцыйным прызнаннем падобнай думкі стала прысуджэнне яму літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Маякоўскага. Хаця цяпер мы чамусьці пра розныя прэміі саромеемся гаварыць, адносячы іх прысуджэнне ледзь не да перажыткаў мінулага. А шкада, бо прэмія В. Шніпам атрымана заслужана.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

## СЁННЯШНІ ДЗЕНЬ САВЕЦКАЙ КУЛЬТУРЫ

# ЦЯЖКІ ВЫХАД СА СПЯЧКІ

НЕКАЛЬКІ дзесяцігоддзяў назад, у перыяд, які вельмі нагадвае сённяшні, адным чалавекам было сказана: «Мастацтва ўжо няма. Ёсць толькі мастакі». Сёння, думаецца, усё наадварот. Вядомыя мастакі ў цяню. Затое культурны рынак завалены сотнямі кніг, кінафільмаў, жывапісных палотнаў невядомых аўтараў. Дрэнных і добрых, прафесіянальных і аматарскіх, дылетанцкіх і таленавітых.

Калі меркаваць па выступленнях дзеячаў мастацтва, масцітых акадэмікаў, кіраўнікоў творчых саюзаў, то савецкая культура—у глыбокім крызісе. Больш таго, яна на самай мяжы катастрофы і вось-вось загіне.

Але меркаваць аб сённяшнім дні мастацтва на падставе выказванняў дзеячаў мастацтва, акадэмікаў і кіраўнікоў не варта. Яны занадта ўсхваляваны тым, што адбываецца ў краіне, і ўласным становішчам, каб стаць аб'ектыўнымі.

Больш за ўсё папрокаў з боку акадэмікаў і кіраўнікоў, іх менш вядомых прыхільнікаў прыпадае на долю публікі. Яшчэ нядаўна бяспраўныя савецкія гледачы і чытачы абвяшчаліся імі «самымі разумнымі і строгімі ў свеце». Сёння глядач і чытач абвінавачваюцца ў некампетэнтнасці, у неразуменні, у амаральнасці і іншых грахах.

А разгадка простая. Атрымаўшы права выбару, публіка стала глядзець тое, што ёй па-сапраўднаму падабаецца, і не стала глядзець і чытаць тое, што ёй не імпануе.

Іншаземец, які цікавіцца праблемамі савецкай літаратуры, наўрад ці вынясе што-небудзь з чытання літаратурных газет і часопісаў. Узаемныя папрокі «левых» і «правых». лаянка, выразы, якія пасаромеўся б ужываць дарэвалюцыйны рамізнік. І амаль у кожным артыкуле, у кожным звароце члены Саюза пісьменнікаў гавораць аб падзенні маралі, смуткуюць аб страце духоўнасці ў грамадстве...

На вачах усяго народа літаратары займаюцца суцяжніцтвам. Судзіцца нават сам Саюз пісьменнікаў СССР з рэдакцыямі літаратурных часопісаў. На словах—гэта барацьба за справядлівасць, за ідэалы той жа маралі. На справе—бойка за ўладу, за матэрыяльны дабрабыт, за захаванне льгот.

Якія гэта мае адносіны да літаратуры? Ніякіх. Літаратура існуе і развіваецца незалежна ад чыноўніцкіх звадак і асабістых пісьменніцкіх амбіцый. Добрыя аўтары працягваюць ствараць добрыя кнігі. Пасрэдныя літаратары штурхаюць сваю шэрую прадукцыю, толькі сёння праштурхоўваць яе стала больш цяжка, чым учора, а заўтра, відаць, стане яшчэ больш складана, чым сёння. І пасрэдныя аўтары, утрыманцы ад літаратуры, кан'юнктуршчыкі і халтуршчыкі, гаваруны і гультаі крычаць аб засіллі рынку, «камерцыялізацыі мастацтва», хаця першага няма яшчэ і ў паміне, а камерцыя толькі ўступае ва ўзаемавыгадныя кантакты з культурай.

Па шматгадовай традыцыі 10 тысяч членаў СП СССР лічаць сябе людзьмі асобага гатунку. Пры гэтым большасць з іх непасрэдна атаясамліваюць сваю персону з Высокім Мастацтвам. Зусім шчыра і сур'ёзна яны думаюць, што іх праца «каштуе значна даражэй, чым гайкі, вытачаныя па шаблону, ці ГЭС, якія апаганьваюць душы». Між тым вельмі і вельмі многія члены пісьменніцкай арганізацыі на працягу дзесяцігоддзяў стваралі опусы, склееныя па існуючых стандартах, ды і душы чытачоў яны, мяркуючы па ўсім, спаганілі не менш, чым ГЭС.

Сярод іх амаль няма па-сапраўднаму прафесійных літаратараў, гэта значыць тых, хто здольны забяспечыць сваё жыццё літаратурнай працай. Раней у гэтым не было неабходнасці. Члены саюза раз'язджалі па краіне з платнымі прапагандысцкімі выступленнямі, атрымлівалі датацыі і іншую падтрымку з боку сваёй арганізацыі. Сёння відавочна, што ўтрыманству ў мастацкай культуры прыходзіць канец. Нецікавыя кнігі, сумныя фільмы ніхто хутка праштурхоўваць не будзе. Ва ўсім свеце, нават у багатых ЗША, усяго толькі некалькі дзесяткаў літаратараў здольны існаваць за кошт літаратурнага заробку. У СССР абсалютная большасць з 10 тысяч членаў жыве за кошт грамадства, у прынцыпе навязваючы яму сваю непатрэбную прадукцыю. Аднак сёння ва ўтрыманцаў вельмі змрочныя перспектывы. Рынку яшчэ няма, але ён будзе. Чытач атрымаў права выбару. Напэўна, давядзецца мяняць прафесію, пераходзіць у аматары. Літаратура ад гэтага толькі выйграе.

Дзіўныя справы адбываюцца ў свеце кінематографа. Таленавітыя рэжысёры сутыкнуліся з сітуацыяй, што ў многім нагадвае праблемы бяздарных пісьменнікаў. Іх тонкія, разумныя, вытанчаныя па стылю стужкі гледачамі не прымаюцца, глядач на фільмы гэтыя не ідзе. Нават на тыя, што ўдастоены першых прэмій на самых прэстыжных міжнародных фестывалях.

Разгадка і тут простая. Кінематаграфісты забыліся пра гледача. Яны ствараюць карціны для крытыкаў, журы, калег, с[illegible]оў. дэманструючы прафесійныя [illegible]асці. А пра тое, ці адпавядаюць іх фільмы праблемам дня, настроям публікі, сённяшняй яе псіхалогіі,—аб усім гэтым не думаецца. Між тым навват дасягаючы галавой неба, нагамі ўсё-такі варта заставацца на зямлі...

У творчых са[illegible]х—разброд, жорсткія спрэчкі або глыбокая апатыя. На рынку мастацтва—небывалая за мінулыя 70 гадоў карціна дабрабыту. Кнігі старых аўтараў, аб якіх раней толькі марылі. Кнігі новых, малавядомых, галоўная мэта якіх—зацікавіць чытача. А гэта—радасная прыкмета.

Глядач і чытач, ва ўсякім разе, значная іх частка, паказваюць несапсаваны, нармальны густ. Яны ўсё радзей купляюць бяздарныя карціны і ўсё часцей спыняюць свой позірк перад сапраўдным палатном. Дарэмныя намаганні тэатраў і кіно залучыць іх, дэманструючы голую натуру ці сцэнкі насілля. Глядач аказаўся больш маральным і патрабавальным, чым яго ганьбавальнікі-мастакі.

Так што ніякага крызісу няма. Адбываецца цяжкі выхад са шматгадовай спячкі. Перамагае логіка, мэтазгоднасць. Становіцца ясным, што творы, якія карыстаюцца масавым попытам, могуць быць і носьбітамі інтэлектуальнай думкі. Становіцца відавочным і іншае. Зусім не ўсе кнігі, фільмы, карціны, ад якіх адварочваецца публіка, геніяльныя. Большай часткай яны сапраўды дрэнныя, сумныя і прэтэнцыёзныя.

І яшчэ. Менавіта ў такія трывожныя, бурныя часы якраз і з'яўляюцца высокія ўзлёты культурнага прафесіяналізму, нараджаюцца незвычайныя таленты і новыя славутыя імёны.

Культура звязана з грамадствам. Яна адлюстроўвае працэсы, што ў ім адбываюцца. І спрачацца аб прыярытэтах тут гэтак жа немэтазгодна, як і аб тым, што было раней—курыца ці яйка.

Сённяшні перыяд — пераходны. Жыццё адкіне ўсе крайнасці, наноснае і лішняе. пакінуўшы лепшае. Гісторыя—старая і новая—лепшы доказ таму.

Вядома, не варта змяншаць колькасць праблем. Але, відаць, і перабольшваць іх не варта.

**Гаўрыіл ПЕТРАСЯН.**

## *РОЗДУМ ЛЯ ПЛАСЦІНКІ*

# ЦІ НЕ ЧАС ВЯРНУЦЦА ДА СВЯТЫХ?

Да 1000-годдзя хрысціянства на Русі выдавецкім аддзелам Маскоўскай Патрыярхіі быў падрыхтаваны альбом «Пахвала беларускім святым». У яго ўвайшлі: слова Мітрапаліта Мінскага і Гродзенскага Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта, песнапенні беларускім святым, творы беларускіх царкоўных кампазітараў, а таксама фрагменты «Усяночнага нясапння» і «Боскай літургіі». Выданне гэтага альбома — з'ява выключная і унікальная за ўвесь паслякастрычніцкі перыяд. Галоўнай мэтай яго з'явілася ўшанаванне беларускіх святых, якіх на сённяшні дзень — чатырнаццаць. Сярод іх Кірыла Тураўскі, Ефрасіння Полацкая, Соф'я Слуцкая, Афанасій Філіповіч, Сімяон Полацкі і іншыя. Беларускія святыя — гэта нашыя асветнікі, людзі прагрэсіўных у свой час поглядаў, барацьбіты за праваслаўе, пакутнікі, якія сваім сумленнем і бескарыслівым жыццём былі маральна-этычным прыкладам для сваіх суайчыннікаў і нашчадкаў.

Другая, вельмі важная і балючая на сённяшні дзень праблема — бездухоўнасць грамадства, асабліва моладзі, якая страціла амаль усе духоўныя каштоўнасці і ідэалы. У гэтым сэнсе можна ўпэўнена сцвердзіць, што змест пласцінак пойдзе на карысць духоўнаму ўзбагачэнню грамадства, таму што нясе яму свае маральна-этычныя і пазнавальныя каштоўнасці.

Непасрэднае знаёмства з творамі, прысвечанымі беларускім святым, і царкоўнай музыкай беларускіх духоўных кампазітараў прыводзіць нас да цэлага шэрагу праблем, яшчэ не вырашаных беларускай духоўнай [illegible]вецкай музыкай. Пачну з таго, ш[illegible]амі гэтыя творы ў музычных адносінах, як кажуць, пакідаюць жадаць лепшага, асабліва творы аўтарскія. Стыль іх позні, з моцным уплывам рускага сентыментальнага раманса, свецкай харавой і offернай класікі, дзе пераважаюць лірычныя, сентымен[illegible]ныя музычныя інтанацыі, своеас[illegible]вым штампам робіцца ладавая пераменнасць, фанізм гармоніі. Усё гэта сведчыць пра любаванне знешнімі праявамі і прыгажосцямі музыкі, за якою часта не чуваць твораў, чаму яшчэ «спрыяе» і не лепшае выкананне з адсутнасцю добрай дыкцыі. Не заўсёды выстройваецца і цэласная кампазіцыйная драматургія твора. Даволі фрагментарнае, напрыклад, песнапенне «Боже, во имя Твое спаси мя» (кампазітар Н. Бутома), што, дарэчы, яшчэ падкрэслена выкананнем.

У свой час П. Чайкоўскі першы аб'явіў рашучую барацьбу рускаму аматарскаму сентыментальнаму рамансу, які панаваў у рускіх царкоўных спевах на працягу амаль усяго XIX стагоддзя. Як пісаў сам П. Чайкоўскі, гэтыя кампазітары «были сущие невежды и своими произведениями причинили столько зла России, что и ста лет мало, чтобы уничтожить его». І далей: «Нужен мессия, который одним ударом уничтожил бы все старое и пошел бы по новому пути; а новый путь заключается в возвращении к седой старине и в сообщении древних напевов в соответствующей гармонизации. Как должно гармонизовать древние напевы, надлежащим образом не решил еще никто, но есть люди, как, например Разумовский, Римский-Корсаков, Азеев, которые знают и понимают, что нужно русской церковной музыке, но всё это глас вопиющего в пустыне». Як бачым, гэты «глас» застаецца актуальным і па сённяшні час.

Спынюся на песнапеннях беларускім святым. Пад нумарам 2 ідзе Трапар Сабору Беларускіх святых у гарманізацыі Л. Ракіцкага. У аснову твора ўзяты знаменны распеў шостага гласу. Нумар 4 — Стыхіра Сабору Беларускіх святых на «Госпадзі, ваззвах» восьмага гласу (гарманізацыя В. Скорабагатава). У аснову Трапара прападобнай Ефрасінні Полацкай пакладзены грэчаскі распеў чацвёртага гласу (гарманізацыя Л. Ракіцкага), нумара 6 — Трапар свяціцелю Кірылу Тураўскаму, заснаваны на валынскім распеве чацвёртага гласу (гарманізацыя В. Скорабагатава). Узнікае пытанне: якое дачыненне маюць усе гэтыя распевы да беларускай царкоўнай музыкі і беларускіх святых? Мы не закрэсліваем іх духоўных каштоўнасцей і прыгажосці. Вядома, што гэтыя распевы ўваходзілі і ў беларускія музычныя рукапісы (ірмалоі). Але ж на тэрыторыі Беларусі ўжо ў XII стагоддзі былі свае арыгінальныя школы царкоўных спеваў — Полацкая і Віцебская (992 г.), Тураўская (1005 г.), Смаленская (1101 г.). У часы Вялікага княства Літоўскага беларускі знаменны распеў і беларускія манодыі дасягнулі свайго найвышэйшага росквіту. Ужо ў канцы XVI стагоддзя афарміліся самастойныя беларускія знаменныя распевы: 1) беларускі знаменны, ці стаўпавы; 2) кіеўска-літоўскі; 3) супрасльскі; 4) розныя лакальныя распевы, сярод якіх вядомыя нясвіжскі, слуцкі, мірскі, куцеінскі, магілёўскі, жыровіцкі і так званы «літоўскія» — вяцкі, старасіманаўскі, іверскі і г.д., не гаворачы пра ўрачыстыя грэчаскі, балгарскі і сербскі распевы. Дык навошта ж нам грэбаваць сваімі багатымі беларускімі распевамі, калі гаворка ідзе пра беларускіх святых? Тым больш, што святой Ефрасінні Полацкай прысвечаны цэлыя цыклы песнапенняў невядомых сярэдневяковых аўтараў (яны знаходзяцца ў Публічнай бібліятэцы імя Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе). Фрагменты іх вядомы з расшыфровак Н. Сяргіенай.

Якім водарам сярэдневякоўя, чысцінёй і цнатлівасцю вызначаюцца гэтыя спевы!

Трэба таксама дадаць, што стыль беларускіх манодый, як і старажытнарускіх царкоўных спеваў, — гімнічны. На жаль, у спевах, прысвечаных беларускім святым, пераважае стыль рэчытатыўны. Прыкладам гэтаму можа служыць «Кандак Сабору Беларускіх святых» Л. Ракіцкага.

Што ж да гарманізацыі распеваў, пра якую так падрабязна пісаў П. Чайкоўскі, дык і яна патрабуе новага да сябе падыходу. Бо ўся гэтая гарманізацыя — заходнееўрапейская стылю і грунтуецца на класічнай функцыянальнай гармоніі. Нагадаю, што стыль першых гарманізацый беларускіх манодый быў народны.

Усе гэтыя хібы ідуць ад няведання сваёй спадчыны, багатай вакальнай і харавой музычнай культуры.

Паўстае пытанне і пра падрыхтоўку высокапрафесійных рэгентаў. Беларускай Епархіі таксама трэба паклапаціцца пра хоры і харавое выкананне. Выкананне твораў не вызначаецца высокім узроўнем. Галасы хору расхістаныя, «стомленыя», манера выканання — акадэмічная.

Усе гэтыя праблемы неабходна вырашыць у бліжэйшы час. Трэба адрадзіць беларускія царкоўныя спевы і харавое выканаўства, якія ў XV — XVII стагоддзях характарызаваліся высокім прафесійным майстэрствам. Нагадаю толькі, што ўжо ў XIV і XV стагоддзях у цэрквах Кракава і Вільні спявалі на два і тры галасы, а з пачатку XVI стагоддзя ў царкоўную практыку ўвайшла чатырохгалосная гарманізацыя спеваў. Ужо з другой паловы XVI — пачатку XVII стагоддзя літургічныя спевы выконваліся на чатыры, пяць, шэсць, восем і нават дванаццаць галасоў. У брацкіх школах былі абавязковымі харавыя спевы, вывучэнне кампазіцыі і гармоніі, інтэнсіўна рыхтаваліся высокапрафесійныя рэгенты, дзякі, а таксама спевакі. На жаль, у нашых сучасных музычных установах (у тым ліку ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі) цяпер не чытаецца курс «Царкоўныя спевы», а выдатныя музычныя духоўныя творы да гэтага часу не ўваходзяць у падручнікі музычнай літаратуры і гісторыі музыкі, навучальныя планы, а таму і не вывучаюцца.

Міністэрству культуры БССР трэба таксама задумацца над пытаннем, чаму ў рэспубліцы няма высокапрафесійнага харавога мастацтва. Хораў шмат, але, на жаль, яны часцей за ўсё працуюць на ўзроўні мастацкай самадзейнасці.

Вось такія невясёлыя думкі ўзніклі ў мяне ў час знаёмства з гэтымі унікальнымі запісамі...

**Ларыса КАСЦЮКАВЕЦ.**
**«Мастацтва Беларусі».**

## З БЕЛАРУСКІХ ВЫДАВЕЦТВАЎ

**Перагортваеш апошнюю старонку альбома-каталога «Іван Хруцкі» і зведваеш радасць і шкадаванне: як добра, што такое выданне з'явілася, і, на жаль, падобных яму пакуль што надзвычай мала.**

**Творы беларускага мастака Івана Хруцкага захоўваюцца ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР (нямногім болей за 20), у Траццякоўскай галерэі ў Маскве, у Рускім музеі ў Ленінградзе, у Вільні, у Варшаве, у Кракаве.**

**У альбоме, выпушчаным сёлета выдавецтвам «Беларусь», 98 твораў мастака, выяўленых у час работы над складаннем гэтага выдання, удакладненыя звесткі пра самога Івана Хруцкага.**

**Нарадзіўся ён у мястэчку Ула Лепельскага павета Віцебскай губерні, першапачатковую мастацкую адукацыю атрымаў у Полацкім ліцэуме на факультэце «свободных художеств», у Пецярбургу быў вольным слухачом Акадэміі мастацтваў, браў прыватныя ўрокі ў вядомых мастакоў. Па заканчэнні акадэміі Іван Хруцкі атрымаў ад цара гадзіннік з залатым ланцужком «в поощрение к дальнейшим трудам» за карціны, «изображающие детей, торгующих фруктами». Праз год дзве работы мастака былі адзначаны малым залатым медалём.**

**Дзеля атрымання ганаровага звання акадэміка Хруцкі на акадэмічнай выстаўцы паказвае два партрэты, шэсць пейзажаў, пяць нацюрмортаў. 19 верасня 1830 года савет Акадэміі мастацтваў удастоіў яго звання акадэміка.**

**Самае значнае месца ў творчасці Хруцкага другой паловы 1830-х гадоў займаў нацюрморт. Сёння вядома каля 40 нацюрмортаў, выкананых ім у 1830—1850-я гады. Нацюрмортаў пазнейшых часоў вельмі мала, але яны даюць падставы сцвярджаць, што майстэрства мастака не згасла. Яго ўспрыняцце нежывой прыроды, прадметаў матэрыяльнага свету стала больш глыбокім і тонкім.**

**Іван Хруцкі пісаў і партрэты. Да лепшых у яго творчасці можна аднесці партрэты кнігавыдаўца І. Глазунова і невядомай. У апошнія гады жыцця былі напісаны «Партрэт А. Міцкевіча», «Партрэт дзяцей» і «Аўтапартрэт».**

**Аўтары-складальнікі альбома-каталога мастацтвазнаўцы І. Паньшына і А. Рэсіна паставіліся да сваёй работы і самой асобы мастака з любоўю і адказнасцю, з жаданнем перадаць свае веды і захапленне творчасцю І. Хруцкага ўсім, хто будзе цікавіцца выданнем. Удакладненні некаторых раней невядомых момантаў творчай біяграфіі майстра дапамаглі ліквідаваць недакладнасці, звязаныя з вядомымі творамі Хруцкага. «Супастаўляючы падпісныя і датаваныя творы з творамі, якія не маюць аўтарскіх подпісаў, параўноўваючы характар палотнаў, манеру пісьма, скарыстанне мастаком пэўных прыёмаў жывапісу,— гавораць складальнікі,— мы пастараліся ўдакладніць час стварэння асобных твораў. Складзены ў выніку гэтай работы візуальны рад дазволіў прадставіць і ўспрыняць творчасць Хруцкага ў развіцці, больш акрэслена сталі відаць яго пошукі ў розныя гады ў галіне кампазіцыі, святла і колеру, пераважанне жанраў».**




**Альбом складаецца з уступнага артыкула, надрукаванага на беларускай, рускай, англійскай, французскай, нямецкай і іспанскай мовах, з чорна-белых і каляровых рэпрадукцый, каталога твораў з указаннем прыкладнага часу напісання карціны і месца, дзе яна захоўваецца.**

**Д. БАБАК.**

## ЗАПРАШАЕ КІРМАШ





**Жывое парася з ружовым лычом і нават рабое цяля можна было выйграць па латарэі на вясёлым сельскім кірмашы, што прайшоў у калгасе «XXI з'езд КПСС» Вілейскага раёна. Вясёлыя скамарохі і зазывалы запрашалі прыняць удзел у традыцыйным народным гулянні, дзе нікому не даводзіцца сумаваць. Артысты самадзейнага лялечнага тэатра давалі імправізаванае прадстаўленне, сельскія музыкі пацяшалі ўсіх вясёлымі мелодыямі, а ў гандлёвых радах можна было набыць вырабы мясцовых умельцаў.**

**НА ЗДЫМКАХ: сельскія музыкі весялілі ўсіх; шчаслівы выйгрыш Пятра ПЯТРОЎСКАГА.**

**Фота А. ТАЛОЧКІ.**

## ПРЫГОЖА!

У Італіі і ЗША, Францыі і Фінляндыі захапляліся работамі гэтага майстра. Яго керамічныя серыі і кампазіцыі ўпрыгожваюць інтэр'еры культурных цэнтраў і грамадскіх будынкаў многіх гарадоў. Сёння выстаўку работ Юрыя Гарбачова можна ўбачыць у Мінскім Доме прыроды.

Выстаўка мастацкай керамікі Гарбачова — не толькі прызнанне ў любві да горада, дзе ўжо многа гадоў жыве мастак. У сваёй творчасці Гарбачоў перш за ўсё філосаф. Зрэшты, па адукацыі таксама: скончыў філасофскі факультэт Ленінградскага універсітэта. Вось таму галоўнае ў яго работах — філасофія дабра. Людзі, звяры, расліны ў мастака заўсёды ў згодзе і гармоніі.



## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

**КАРНАУХ** Маланія Іванаўна (у дзявоцтве **ДАВЫДОВІЧ** Амелія), якая нарадзілася 8 сакавіка 1908 года ў Нью-Йорку, шукае бацьку. Яе бацька **ДАВЫДОВІЧ Іван** застаўся ў Злучаных Штатах, а **Маланія Іванаўна** разам з маці прыблізна ў 1915—1916 гадах вярнулася ў Расію. Больш пра свайго бацьку нічога не ведае. Акрамя яго ў ЗША засталіся іншыя сваякі: цёткі (з боку бацькі)—**Станіслава і Алена ДАВЫДОВІЧ**; дзядзька — **Вацэ ДАВЫДОВІЧ**. Цётка (з боку маці) — **КАРНАУХ Вольга Іванаўна.**

Усіх, хто што-небудзь ведае пра **ДАВЫДОВІЧА Івана** і яго блізкіх, просім пісаць у рэдакцыю ці на адрас:
**БССР, 220056, г. Мінск,**
**вул. Паштовая, д. 2, кв. 27.**
**КАРНАУХ М. І.**

**ПЫЛІЛА** Аляксей Іосіфавіч шукае стрыечных братоў і сясцёр, дзяцей яго дзядзькаў **ПЫЛІЛЫ Канстанціна Мікалаевіча, ПЫЛІЛЫ Ігнацiя Мікалаевіча** і **ПЫЛІЛЫ Стэфана Мікалаевіча**. Дзядзькі нарадзіліся ў вёсцы Вялешына Мінскай губерні, выехалі ў ЗША пасля 1905 года. Жылі там, па недакладных звестках, у горадзе Су-Сіці і Чыкага.

Просім усіх, хто можа дапамагчы ў пошуках, пісаць у рэдакцыю або на адрас:
**БССР, 223036, Мінская вобласць, г. Заслаўе,**
**вул. Рабочая, 28.**
**ПЫЛІЛУ Аляксею Іосіфавічу.**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**
**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Зак. № 1704.